

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 16 (117) 2 лістапада 1931 г. № 16 (117)



## ЗЬМЕСТ.



## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### 76. Пра зьдзельную аплату працы машыністак дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, каперацыйных і грамадзкіх арганізацый.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

У мэтах стварэньня стымула для падняцьця вытворчасьці працы і зьнішчэньня ўраўнілаўкі ў аплаце працы машыністак дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, каперацыйных і грамадзкіх арганізацый, перавесьці машыністак паказаных устаноў на зьдзельную аплату працы з 1-га лістапада 1931 г. на наступных падставах:

1. Устанавіць дзённую норму выпрацоўкі машыністкі—30 старонак з друкаванага тэкставага матарыялу пры адначасовай укладцы ў машынку да 6 паасобнікаў уключна.

2. За друкаваную старонку пры вылічэньні выпрацаўкі прымаецца старонка, якая зьмяшчае 30 радкоў кожная, па 60 удараў у радку.

Увага. Новыя радкі і канцы абзацаў, якія не далічваюць 5 удараў, лічацца за цэлы радок.

3. Пры ўстанаўленьні фактычнай выпрацоўкі кожнай машыністкі, у залежнасьці ад характару работы і якасьці арыгінала, дабаўляюцца да адзінкі наступныя паправачныя каэфіцыэнты ў бок зьніжэньня нормы, устаноўленай у арт. 1-м:

а) друкаваньне з рукапіснага матарыялу . . . . . . . 15 проц.
б) „ з неразборлівай рукапісі (сноскі, папраўкі на асобных кавалках паперы) . . . . . 30 проц.
в) „ з друкаванага тэксту, мяш. з лічбовым матарыялам у тэксьце і табліцах . . . . 25 проц.
г) „ з рукапісн. тэксту, мяшанага з лічбовым матарыялам у тэксьце і табліцах . . . 35 проц.
д) „ суцэльнага лічбовага матарыялу ў табліцах з друкаванага тэксту . . . . . . . 40 проц.
е) „ суцэльнага лічбовага матарыялу ў табліцах з рукапіснага тэксту . . . . . . 50 проц.
ж) „ на васковай паперы . . . . . . . . . . 15 проц.
з) „ табліц з простападным графленьнем . . 70 проц.
і) „ матарыялу для шклёграфіі . . . . . . 15 проц.
к) „ адначасовае ад 7 да 10 паасбнікаў уключна 10 проц.
л) „ адначасовае звыш 10 паасобнікаў . . . 20 проц.
м) „ пры пераводзе з беларускага на расійскі, альбо з расійскага на беларускі . . . . 10 проц.
н) „ дробных адносьнікаў, тэлеграм, тэлефанаграм да 1/4 старонкі пры аднэй укладцы лічыцца за 25 проц. старонкі.

Увага. 1. Пры друкаваньні мяшанага матарыялу, лічбовы матарыял, які не перавышае 10 проц. на гэтую адзінку, аплачваецца як тэкставы матарыял.

Увага 2. Форма з графленьнем, бяз лічбовага запаўненьня прыраўніваецца адпаведна да друкаванага тэкставага матарыялу.

Увага. 3. Пры друкаваньні матарыялаў паказаных у п. п. пад літарамі „ж“, „і“, „к“, „л“, „м“, неабходна ўлічыць характар матарыялаў, з якога робіцца друкаваньне, з налічэньнем адпаведных дадатковых процантаў (п. п. „а“, „б“, „в“, „г“, „д“, „е“, і „з“).

4. Друкаваньне пад дыктоўку і расшыфроўка стэнаграм аплачваецца з разьліку сярэдняй дзённай выпрацоўкі гэтай машыністкі за мінулы месяц.

5. Зьдзельшчына ні ў якім разе не павінна адбівацца на якасьці працы. Брак па віне машыністкі пры немагчымасьці паправіць работу не аплачваецца. Таксама не аплачваецца час для выпраўленьня памылак, дапушчаных па віне машыністкі.

6. У выпадку прастояў і недавыпрацоўкі нормы па прычынах, не залежачых ад машыністкі, аплата робіцца з разьліку 100 проц. акладу, пакладзенага ў аснову зьдзельнай расцэнкі.

7. Аплата звышмернай работы і работы ў начны час робіцца ў адпаведнасьці з Кодэксам аб Працы.

8. Месячны асноўны аклад машыністак устанавіць: для Менску, Гомелю і Віцебску—75 руб. 60 кап., для Магілева, Бабруйску, Оршы, Мазыра, Полацку, Барысава і Рэчыцы—68 рубл. 40 кап., а для астатніх раёнаў—61 рубл. 20 к.

9. Зьдзельная расцэнка ўстанаўляецца праз дзяленьне ўстаноўленага для данай мясцовасьці акладу машыністак на месячную норму выпрацоўкі, устаноўленую ў арт. арт. 1 і 3 гэтай пастановы.

Прыклад: Месячны аклад машыністкі—75 рубл. 60 кап. Норма выпрацоўкі 30 старонак у дзень, альбо 720 старонак у месяц (30×24=720). Зьдзельная расцэнка за старонку пры гэтых умовах будзе складаць 75 руб. 60 кап.: 720=$10^1/_2$ кап.

10. Пры недавыпрацоўцы нормы машыністкі атрымоўваюць па фактычнай выпрацоўцы, але ня ніжэй $^2/_3$ асноўнага месячнага акладу.

Для начынаючых машыністак, ня маючых практычнага стажу, устанаўліваюцца наступныя стаўкі—для Менску, Гомеля і Віцебску—40 руб., для Магілева, Бабруйску, Оршы, Мазыра, Полацку, Барысава і Рэчыцы—35 руб., а для астатніх раёнаў—30 руб. бяз нормы.

11. За выпрацоўку звыш нормы ўстанаўліваюцца паступова нарастаючыя расцэнкі, паводле наступнай шкалы:

## ШКАЛА

**расцэнак на кожную старонку звыш 30 пры расцэнцы за старонку нормы $10^1/_2$ кап.**

| Старонкі | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Расцэнка ў кап. | $11^1/_2$ | $12^1/_2$ | $13^1/_2$ | $14^1/_2$ | $15^1/_2$ | 17 | $18^1/_2$ | 20 |
| % нарастаньня расцэнак у адносіне да асноўнае расцэнкі ($10^1/_2$ к.) . . . . . . . | 9,5 | 19,0 | 27,6 | 38,0 | 47,6 | 61,9 | 76,1 | 90,4 |

| Старонкі | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | зв. 45 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Расцэнка у кап. | $21^1/_2$ | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 33 |
| % нарастаньня расцэнак у адносіне да асноўнае расцэнкі ($10^1/_2$ к.) . . . . . . . | 104,7 | 119,0 | 138,0 | 157,0 | 176,1 | 195,2 | 214,3 | 214,3 |

Паказаны парадак паступовых расцэнак устанаўліваецца як абавязковы для ўсіх устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, у якіх уводзіцца зьдзельная аплата працы машыністак.

Прыклад. Машыністка пры норме ў 30 старонак фактычна выпрацоўвае 43 старонкі ў дзень.

За норму ў 30 старонак машыністка атрымоўвае па $10^1/_2$ кап. за старонку, гэта складае $10^1/_2$ кап.×30 =3 руб. 15 кап. у дзень.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| За 31-ю | старонку | асн. | расц. | павялічваецца | на 9,5 проц. | і | складае | 11½ к. |
| „ 32 | „ | „ | „ | „ | „ 19,0 проц. | | „ | 12½ „ |
| „ 33 | „ | „ | „ | „ | „ 27,6 проц. | | „ | 13½ „ |
| „ 34 | „ | „ | „ | „ | „ 38,0 проц. | | „ | 14½ „ |
| „ 35 | „ | „ | „ | „ | „ 47,6 проц. | | „ | 15½ „ |
| „ 36 | „ | „ | „ | „ | „ 61,9 проц. | | „ | 17 „ |
| „ 37 | „ | „ | „ | „ | „ 76,1 проц. | | „ | 18½ „ |
| „ 38 | „ | „ | „ | „ | „ 90,4 проц. | | „ | 20 „ |
| „ 39 | „ | „ | „ | „ | „ 104,7 проц. | | „ | 21½ „ |
| „ 40 | „ | „ | „ | „ | „ 119,0 проц. | | „ | 23 „ |
| „ 41 | „ | „ | „ | „ | „ 138,0 проц. | | „ | 25 „ |
| „ 42 | „ | „ | „ | „ | „ 157,0 проц. | | „ | 27 „ |
| „ 43 | „ | „ | „ | „ | „ 176,1 проц. | | „ | 29 „ |

УСЯГО ............ 5 р. 63½ к. у дзень.—

12. Для старшай машыністкі машынапіснага бюро, дзе працуе машыністак звыш 3-х і да 8 уключна, за вядзеньне вучоту і разьмеркаваньне матарыялу, ўстанаўліваецца паніжаная норма выпрацоўкі ў 21 старонку і зарплата ёй павялічваецца на 25 проц.

13. Гарантыраваная цьвёрдая аплата старшай машыністкі, дзе колькасьць машыністак звыш 8-мі, устанаўліваецца на 25 проц. вышэй сярэдняга заработку машыністак данага машынапіснага бюро. За павялічэньне якасных паказчыкаў работы, хуткае выкананьне работы ў бюро, а таксама за бракоўку старшай машыністкай работ машыністак, старшая машыністка можа быць прэміравана ў разьмеры да 20 проц. акладу. Да такога-жа разьмеру можа быць зроблена ўтрыманьне з зарплаты старшай машыністкі за прапушчаныя ёю бракаваныя работы машыннага бюро. Старшая машыністка ў свабодны ад вучоту выпрацоўкі астатніх машыністак час, павінна быць нагружана работай па друкаваньню (без асобай аплаты).

Увага. Старшая машыністка вызначаецца ў машынапісным бюро, дзе маецца больш 3-х машыністак. У бюро, дзе менш 3-х машыністак, вучот вядзецца працаўніком канцылярыі.

14. Дні замены машыністкай старшай машыністкі ў выхадныя дні аплачваюцца па сярэдняму заработку гэтай машыністкі за мінулы месяц.

15. Дзяржаўным установам і прадпрыемствам, каперацыйным і грамадзкім арганізацыям забараняецца ўстанаўліваць норму выпрацоўкі і зьдзельнай расцэнкі аплаты працы машыністак, пярэчачыя ўстаноўленым паводле гэтай пастановы.

Пры асобных умовах работы, з дазволу мясцовых органаў працы і санкцыі НК Працы, адміністрацыі з удзелам прафэсійных арганізацый прадастаўляецца права ўносіць карэктывы ва ўстаноўленыя нормы выпрацоўкі і зьдзельнай расцэнкі.

16. Мясцовыя органы працы павінны ўстанавіць кантроль за

правядзеньнем у жыцьцё ўстаноўленых норм выпрацоўкі і зьдзельных расцэнак аплаты працы машыністак.

17. Вінаватыя ў парушэньні ўстаноўленых норм выпрацоўкі і асобных расцэнак аплаты працы машыністак прыцягваюцца да адказнасьці ва ўстаноўленым парадку.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня
Ўмоў Працы НКП БССР **Гольдзінберг**

Узгоднена з ЦСПСБ—пастанова Прэзыдыуму за 10|X-1931 г.

21 кастрычніка 1931 г.
№ 44.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР.

### 77. Аб штатах раённых выканаўчых камітэтаў БССР на 1932 г.

Задачы сапраўднага launch пэратварэньня раёну ў вузлавы пункт практычнага ажыцьцяўленьня палітыкі Партыі і Ураду на вёсцы патрабуюць узмацненьня апарату РВК у напрамку дадатковага ўвядзеньня ў штат апошніх цэлага раду пасадных адзінак, каб яшчэ больш пашырыць магчымасьць РВК самастойна выконваць стаячыя перад імі задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага і на падставе рашэньня Савету Народных Камісараў БССР за 23/X-1931 г., НК РСІ пастанаўляе:

І. Увесьці у штат раённых выканаўчых камітэтаў на 1932 г. звыш штату 1931 г., наступныя пасады:

| | па БССР |
|---|---|
| 1. Намесьнік старшыні РВК, ён-жа кіраўнік Плянав. Камісіі, па 1 у кожным раёне | 72 |
| 2. Вэтэрынарны Інспэктар, па 1 у кожным раёне | 72 |
| 3. Пажарны інспэктар, па 1 у кожным раёне | 72 |
| 4. Статыстык (для абслугоўваньня тых частак РВК, у якіх няма сваіх тэхнічных працаўнікоў), па 1 у кожным раёне | 72 |
| 5. Інструктары асьветы, па 2 у 64 раёнах і па 3 у 8 раёнах | 152 |
| 6. Упаўнаважаны Галоўліта, па 1 у 20 раёнах | 20 |
| 7. Інспэктар аховы здароўя і па справах быту, па 1 на кожны раён у 67 раёнах (зараз ёсьць у 5 раёнах) | 67 |
| 8. Інспэктар Ахматмладу, па 1 у 5 раёнах | 5 |
| 9. Інспэктары райфа усяго | 66 |
| і 1 рахунковод | 1 |
| 10. Інспэктар працы: | |
| а) Райінспэктар, па 1 у 16 раёнах (зараз ёсьць у 56 раёнах) | 16 |
| б) Інсп. па кадрах, па 1 у 19 раёнах | 19 |
| в) „ лінейны, па 1 у 5 раёнах | 5 |

| | | |
|---|---|---|
| 11. | Інспэктар снабжэньня, па 1 на раён у 23 раёнах . | 23 |
| 12. | Тэхнік па камунальнай гаспадарцы, па 1 у 12 раёнах . | 12 |
| 13. | Дарожны тэхнік, у 5 раёнах . . . . . | 5 |
| 14. | Статыстык плянкамісіі, усяго . . . . . | 21 |
| 15. | Па РСІ | |
| | а) Адказны сакратар . . . . . . | 12 |
| | б) Інспэктар . . . . . . . | 31 |
| 16. | Інфарматар, па 1 у 46 раёнах . . . . . | 46 |
| 17. | Інструктар фізкультуры, па 1 у 33 раёнах . . | 33 |
| 18. | Сакратар нацкамісіі, у 3 раёнах . . . . . | 3 |
| 19. | Шофер (у тых раёнах, дзе ёсьць машыны) . . | |
| | Разам па БССР . . . . . | 825 |

адзінак (апроч шофераў).

II. Інспэкцыю асьветы пераіменаваць у Аддзел Народнай Асьветы, а кіраўніка інспэкцыі—у загадчыка Аддзелу з тым, што загадчык выконвае і абавязкі аднаго з інспэктароў па тэй ці іншай галіне нарасьветы.

III. Абавязкі інспэктара сацыяльнага забясьпечаньня ўскласьці на аднаго з адказных працаўнікоў РВК па пагляду Прэзыдыму РВК.

IV. У выніку павялічэньня штатаў устанавіць, як мінімум у кожным РВК, наступны штат на 1932 г.

| | На раён: | Па БССР: |
|---|---|---|
| **I. РВК.** | | |
| 1. Старшыня РВК . . . . . | 1 | 72 |
| 2. Нам. старшыні, ён-жа кіраўнік Плянавай Камісіі . . . . . . | 1 | 72 |
| 3. Адказны сакратар . . . . | 1 | 72 |
| 4. Інструктар сав. будаўніцтва . . . | 1 | 72 |
| 5. Інспэктар снабжэньня . . . | 1 | 72 |
| 6. Інсцэктар аховы здароўя па справах быту . | 1 | 72 |
| 7. Інспэктар камунальнай гаспадаркі . | 1 | 72 |
| 8. Пажарны інспэктар . . . . | 1 | 72 |
| 9. Інспэктар працы . . . . | 1 | 72 |
| 10. Інспэктар дарожнага будаўніцтва . . | 1 | 72 |
| **II. Плянавая Камісія.** | | |
| 11. Плянавік-эканаміст . . . . | 1 | 72 |
| 12. Ст. статыстык . . . . | 1 | 72 |
| 13. Статыстык . . . . . | 1 | 72 |
| **III. Земаддзел.** | | |
| 14. Загадчык . . . . . . | 1 | 72 |
| 15. Райаграном . . . . . | 1 | 72 |
| 16. Вэт. інспэктар . . . . . | 1 | 72 |
| 18. Земляўпарадчык . . . . | 1 | 72 |
| 19. Тэх. сакратар-статыстык . . . | 1 | 72 |

| | | На раён: | Па БССР: |
|---|---|---|---|
| | **IV. Фінаддзел.** | | |
| 19. | Загадчык | 1 | 72 |
| 20. | Інспэктар па бюджэту | 1 | 72 |
| 21. | „ па прыбытках | 1 | 72 |
| 22. | „ па дзяржстраху | 1 | 72 |
| 23. | Бухгальтар | 1 | 72 |
| 24. | Тэх. сакратар-статыстык | 1 | 72 |
| | **V. Аддзел народнае асьветы.** | | |
| 25. | Загадчык, ён-жа інспэктар аднэй з галін нарасьветы | 1 | 72 |
| 26. | Інспэктар | 1 | 72 |
| 27. | Інструктары | 2 | 144 |
| | **VI. РСІ** | | |
| 28. | Загадчык | 1 | 72 |
| 29. | Заг. Бюро скаргаў | 1 | 72 |
| 30. | Інспэктар | 1 | 72 |
| | **VI. Асобная частка.** | | |
| 31. 32. | (Па асобнаму сьпісу) | 2 | 144 |
| | **VII. Агульная частка.** | | |
| 33. | Сакратар прэзыдыуму | 1 | 72 |
| 34. | Справавод | 1 | 72 |
| 35. | Экспэдытар | 1 | 72 |
| 36. | Статыстык | 1 | 72 |
| 37. | Машыністка | 2 | 144 |
| 38. | Тэх. абслуг. пэрсанал | 3 | 216 |
| | Разам | 42 | 3.024 |

IV. Разьмеркаваньне астатніх штатных адзінак па раёнах, звыш паказанага мінімуму, праводзіцца па ўзгадненьні з НК РСІ, з адпаведным ведамствам—прыстасавана да асаблівасьцяй кожнага раёну у той ці іншай галіне народнай гаспадаркі. Паведамленьне раёнаў, у якіх уводзяцца іншыя адзінкі, утвараецца самім ведамствам, паводле складзенага сьпісу.

V. У тых раённых інспэкцыях, дзе больш як па аднаму інспэктару (аховы здароўя, камунальнае гаспадаркі і інш.), адзін з інспэктароў па прызначэньні Прэзыдыуму РВК зьяўляецца кіраўніком данай інспэкцыі, адказным за работу інспэкцыі ў цэлым.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

**29 кастрычніка** 1931 г.

### 78. Аб штатах Менскага, Віцебскага і Гомельскага гарсаветаў на 1932 г.

І. На падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 23|Х-1931 г., НК РСІ зацьвярджае на 1932 г. наступны штат Менскага, Віцебскага і Гомельскага гарсаветаў:

| | Менск. | | Віцебск і Гомель. | |
|---|---|---|---|---|
| | на 1932 г. | (У 1931 г.) | на 1932 г. | (У 1931 г.) |
| 1. Прызыдыум і агульная частка | 36 | (33) | 29 | (26) |
| 2. Плянавая камісія . . | 9 | ( 9) | 8 | ( 8) |
| 3. Фінаддзел . . . | 35 | (35) | 27 | (27) |
| 4. Камунальны аддзел . | 21 | (14) | 16 | ( 9) |
| 5. Зямельны аддзел . . | 6 | ( 7) | 6 | ( 7) |
| 6. Аддзел Нарасьветы . | 9 | ( 5) | 8 | ( 5) |
| 7. Інспэкц. аховы здароўя . | 3 | ( 3) | 3 | ( 2) |
| 8. Інспэкт. фізкультуры . | 1 | ( 1) | 1 | ( 1) |
| 9. „ працы . . | 16 | ( 7) | 15 | ( 5) |
| 10. „ снабжэньня . | 4 | ( 3) | 4 | ( 1) |
| 11. РСІ . . . . | 7 | ( 6) | 8 | ( 6) |
| 12. Дарожнае будаўніцтва . | 1 | ( 0) | 1 | ( 0) |
| 13. Сабес . . . | 1 | ( 1) | 1 | ( 1) |
| 14. Загс . . . . | 3 | ( 3) | 2 | ( 2) |
| 15. Спэц. частка . . | 5 | ( 5) | 5 | ( 5) |
| 16. Інсп. мясцов. прамысловасьці | 3 | ( 0) | 3 | ( 0) |
| Разам. . . . | 160 | (Супроць штату у 1931 г. у 131 адз.) | 137 | (Супроць штату 1931 г. у 105 адз.) |

Звыш гэтага ў Віцебск дадаецца 1 лінейны інспэктар працы.

ІІ. У тых інспэкцыях, дзе больш як па аднаму інспэктару, адзін з інспэктароў па прызначэньні прэзыдыуму гарсавету зьяўляецца кіраўнікам данай інспэкцыі.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

29 кастрычніка 1931 г.

### 79. Аб штатах гарсаветаў, падпарадкаваных РВК, на 1932 г.

1. На падставе пастановы СНК БССР, НК РСІ зацьвярджае на 1932 г. наступны штат гарсаветаў, падпарадкаваных РВК:

| | Магілеў, Бабруйск. | Барысаў, Орша, Мазыр, Рэчыца, Полацак. |
|---|---|---|
| 1. Старшыня . . . . | 1 | 1 |
| 2. Сакратар . . . . | 1 | 1 |
| 3. Інструктар сав. будаўніцтва . | 1 | — |
| 4. Інспэктар Сабесу . . . | 1 | — |
| 5. Інспэктар асьветы . . | 1 | — |
| 6. Інспэктар Аховы Здароўя . | 2 | — |
| 7. Інструктар фізкультуры . . | 1 | — |

| | Магілеў. Бабруйск | Барысаў, Орша, Мазыр, Рэчыца, Полацак. |
|---|---|---|
| 8. Інспэктар працы . . . | 7 | 3 |
| 9. Інспэктар снабжэньня . . | 1 | 1 |
| 10. Інспэктар па бюджэту . . | 1 | 1 |
| 11. Інспэктар па мабіліз. сродкаў . | 1 | — |
| 12. Інспэктар па прыбытках . . | 2 | 1 |
| 13. Агэнт . . . . | 1 | 1 |
| 14. Інспэктар дзяржстрахаваньня . | 1 | — |
| 15. Агэнт дзяржстрахаваньня . . | — | 1 |
| 16. Бухгальтар . . . . | 1 | 1 |
| 17. Рахункавод . . . . | 2 | 1 |
| 18. Тэх. сакратар . . . . | 1 | 1 |
| 19. Справавод . . . . | 1 | 1 |
| 20. Экспэдытар . . . . | 1 | — |
| 21. Машыністкі . . . . | 3 | 2 |
| 22. Тэх. абслугоўв. пэрсанал . . | 4 | 1 |
| 23. Загс . . . . . | 2 | 1 |
| Па . . | 37 | Па . . 18 |

Звыш гэтага па Бабруйску ўводзіцца яшчэ 1 агэнт па рабочаму снабжэньню, па Воршы—3 інспэктары працы.

II. У гарсаветах: 1) Быхаўскім, 2) Веткаўскім, 3) Гарадоцкім, 4) Горацкім, 5) Дубровенскім, 6) Добрускім, 7) Жлобінскім, 8) Клімавіцкім, 9) Лепельскім, 10) Мсьціслаўскім, 11) Нова-Беліцкім, 12) Петрыкаўскім, 13) Рагачоўскім, 14) Слуцкім, 15) Сененскім, 16) Чавускім, 17) Чэрвенскім, 18) Чэрыкаўскім, 19) Шклоўскім, 20) Калінкавіцкім—штат устанавіць наступны:

| | |
|---|---|
| 1. Старшыня гарсавету . . . . . . | 1 |
| 2. Сакратар . . . . . . | 1 |
| 3. Рахункавод . . . . . . | 1 |
| Усяго па . . . | 3 |

III. Абслугоўваньне гарадоў па тых галінах дзейнасьці, па якіх у гарсавеце няма інспэкцыі, праводзіцца адпаведнай інспэкцыяй (часткай) РВК.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

29 кастрычніка 1931 г.





Адказны Рэдактар—**С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 686—5350 э